**№137 (1950)**

Аўторак, 27 ліпеня 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля


E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +25...+27, сонечна, уначы — +18...+20, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +22...+24, навальніца, уначы — +18...+20, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +23...+25, навальніца, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +26...+28, дождж, уначы — +18...+20, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +26...+28, сонечна, уначы — +18...+20, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Палата прадстаўнікоў Кангрэса ЗША заклікае беларускія ўлады правесці «дэмакратычныя, празрыстыя і справядлівыя» парламенцкія выбары

Палата прадстаўнікоў Кангрэса ЗША 22 ліпеня ўхваліла рэзалюцыю, якая заклікае ўрад Беларусі забяспечыць "дэмакратычны, празрысты і справядлівы" выбарчы працэс на парламенцкіх выбарах 17 кастрычніка.

Дакумент, у прыватнасці, заклікае беларускія ўлады забяспечыць свабодны доступ на выбары міжнародных і беларускіх назіральнікаў, прысутнасць у выбарчых камісіях прадстаўнікоў розных палітычных партый, роўны доступ усіх кандыдатаў да СМІ, празрыстасць працэсу падачы скаргаў і апеляцый.

Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША таксама заклікала міжнародную супольнасць, у тым ліку Савет Еўропы і АБСЕ, працягваць падтрымліваць развіццё дэмакратыі ў Беларусі, а Літву і іншыя балтыйскія і скандынаўскія краіны — аказваць садзейнічанне няўрадавым арганізацыям.

За прыняцце рэзалюцыі аднагалосна прагаласавалі 421 кангрэсмен.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## У Йакагаме аб Беларусі

У Цэнтры падтрымкі бізнесу Йакагамы (прэфектура Канагава, Японія) 22 ліпеня адбыўся семінар-прэзентацыя эканамічных магчымасцяў Рэспублікі Беларусь з удзелам каля 60 прадстаўнікоў дзелавых колаў і грамадскасці Йакагамы і Токіо.

Дасягнута дамоўленасць аб прадастаўленні шэрагам японскіх кампаній прапаноў па каапераваныі ў вытворчасці і рэалізацыі на рынку Японіі і іншых краін беларускіх гадзіннікаў, падшыпнікаў, оптыкі і іншых тавараў.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Тэрмінова пакінуць памяшканне

Еўрапейскі гуманітарны універсітэт атрымаў прадпісанне аб неадкладным высяленні з будынку на адрасе вуліца П.Броўкі, 3. Прадпісанне атрымана з Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Беларусі, якому належыць будынак. За некалькі дзён да гэтага быў спынены дагавор арэнды з ЕГУ.

"Паводле заключэння юрыстаў, гэтае патрабаванне з'яўляецца неабгрунтаваным, — паведамілі ў рэктараце універсітэта. — Гэтыя дзеянні пазбаўляюць ЕГУ магчымасці працягваць сваю дзейнасць. Студэнты і выкладчыкі губляюць магчымасць вучыцца і працаваць ва універсітэце, які так баранілі апошнія паўгода".

22 ліпеня універсітэт папярэдзілі аб праверках з боку ліцэнзійнай камісіі Дэпартамента кантролю якасці адукацыі Міністэрства адукацыі і дзвюх камісій падатковай інспекцыі. На працягу гэтага навучальнага года ў ЕГУ праводзілася 11 праверак, 30 красавіка універсітэт атрымаў ліцэнзію на працяг адукацыйнай дзейнасці.

Як паведаміў рэктарат, міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў "фактычна прад'явіў ультыматум ЕГУ, запатрабаваўшы неадкладнай адстаўкі рэктара Анатоля Міхайлава; у адваротным выпадку, як адзначыў міністр, ЕГУ чакаюць вялікія непрыемнасці". У гэтай сувязі рэктар звярнуўся да калектыву універсітэта з просьбай вызначыць сваё стаўленне да патрабаванняў міністра. 20 ліпеня Сенат універсітэта ад імя калектыву ВНУ аднагалосна выказаў падтрымку свайму рэктару і, "папрасіўшы яго не пакідаць сваёй пасады, пацвердзіў, што тым не менш падтрымае любое яго рашэнне", адзначылі ў рэктарацае ЕГУ.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Ад удару маланкі

Трагедыя адбылася днём 25 ліпеня ў вёсцы Махірава Полацкага раёна.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, прыкладна ў 16.15 ад удару маланкі падчас навальніцы загінулі тры жыхары горада Наваполацк. Ахвярамі стыхіі сталі двое малалетніх дзяцей — дзяўчынка 2000 года нараджэння, хлопчык 2003 года нараджэння, а таксама іх 34-гадовы бацька. 24-гадовая маці і жонка загінулых з электрычнымі апёкамі памешчана ў бальніцу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**МІНСК—МАСКВА**

# Ледніковы перыяд?

### Напружаннем вакол карпункта канала «Россия» ў Мінску беларускія ўлады кідаюць выклік Крамлю, — лічаць эксперты

Як вядома, у канцы мінулага тыдня ўлады Беларусі пайшлі ў наступ на карэспандэнцкі пункт Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (УДТРК). Пра яго лёс са спасылкай на Міністэрства замежных спраў паведаміла Беларускае тэлебачанне. Крыху пазней свае слова сказала прэзідэнцкі прэс-сакратар **Наталля ПЯТКЕВІЧ.** На яе думку карпункт тэлеканала "Россия" (былы РТР) распаўсюджвае *"заведама ілжывую інфармацыю, якая зневажае годнасць беларускіх грамадзян і негатыўна ўплывае на імідж Рэспублікі Беларусь"*.

Падставай для ўзнікнення пытання вакол карпункта, нагадаем, стаў сюжэт карэспандэнта "России" Дзмітрыя Пятрова пра акцыю апазіцыі 21 ліпеня, якая была прысвечана дзесятай гадавіне прэзідэнцкага праўлення Аляксандра Лукашэнкі. У сваім рэпартажы Пятроў паведаміў, што мітынгаваць супраць "бацькі" на мінскую плошчу Якуба Коласа выйшла ад дзвюх да пяці тысяч чалавек, тады як, па даных МУС Беларусі, камеры відэаназірання, якія адсочвалі мітынг, зафіксавалі нібыта не больш за 150—200 чалавек.

Пасля выхаду сюжэта Дзмітрыя Пятрова, у якім была паказана сцэна жорсткага разгону дэманстрантаў сіламі АМАПу, спачатку свае прэтэнзіі каналу прад'явіў міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў, які заявіў, што расійскі журналіст у сваім рэпартажы завысіў колькасць удзельнікаў дэманстрацыі. Выступіўшы пасля акцыі ў эфіры БТ, Навумаў заявіў, што да журналіста будуць прыняты адпаведныя меры — аж да пазбаўлення яго акрэдытацыі і дэпартацыі.

Намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі беларускага МЗС **Руслан ЕСІН** заявіў, што Мінск чакае *"афіцыйнай рэакцыі ад расійскага боку"*. Згодна з яго словамі, інцыдэнт будзе лічыцца вычарпаным, калі ў адной з навінавых праграм канала "Россия" *"беларускаму боку будуць прынесены афіцыйныя прабачэнні"*. Аднак адразу было зразумела, што аднімі прабачэннямі справа не абмяжуецца. У нядзелю, 25 ліпеня, была агучана чарговая версія — заканчэнне кантракта канала з МЗС Беларусі...

Уже вядома рэакцыя расійскага боку на чарговы акт пошуку чорнай кошкі ў Мінску. Афіцыйны прадстаўнік МЗС Расіі Аляксандр Якавенка ў інтэрв'ю расійскім мас-медыя заявіў, што *"асвятленне тых ці іншых падзей у Беларусі карэспандэнтамі тэлеканала "Россия" не могуць быць сур'ёзнай нагодай для падобнага кшталту крокаў"*. Тым не менш расійскі дыпламат выказаў спадзяванне, што *"карэспандэнцкі пункт УДТРК "Россия" ў Беларусі працягне працу ў ранейшым рэжыме"*.

Нагадаем, што раней, яшчэ да спрэчак з "Россией", гнеў беларускага боку тычыўся толькі недзяржаўных электронных СМІ Расійскай Федэрацыі — каналаў ГРТ і НТБ. Першым 24 сакавіка 1997 года з Беларусі *"за сістэматычную дэзінфармацыю грамадскай думкі"* быў дэпартаваны карэспандэнт НТБ Аляксандр Ступнікаў. Дэпартацыя Ступнікава адбылася адразу пасля таго, як у эфір НТБ выйшла серыя яго матэрыялаў аб прыцясненні ў Беларусі незалежнай прэсы. Прыкладна ў той жа час *"за скажэнне інфармацыі пра падзеі ў рэспубліцы"* былі пазбаўлены акрэдытацыі супрацоўнікі канала ГРТ Зміцер Завадскі, Павел Шарамет і Яраслаў Аўчыннікаў. Шарамету і Завадскаму нават давялося пасядзець за кратамі за *"незаконнае перасячэнне мяжы"*.

У мінулым годзе "ласкавыя абдымкі" беларускіх улад спазнаў карэспандэнт НТБ Павел Селін, які перадаў у эфір сюжэт пра пахаванне народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, які не спадабаўся ўладам. Дарэчы, падчас дэпартацыі Павел Селін прадбачліва заявіў, што чарговы скандал з расійскімі журналістамі — *"усяго толькі справа часу"*. І вось нарэшце чарга дайшла і да дзяржаўнага расійскага тэлебачання...

Тое, што гнеў беларускіх улад прыйшоўся менавіта на дзяржаўны расійскі тэлеканал, якім з'яўляецца "Россия", назіральнікі ў Маскве і ў Мінску лічаць невыпадковым і сходзяцца ў думцы, што ў адносінах паміж краінамі, якія зусім нядаўна лічыліся саюзнікамі, сапраўды прабегла чорная кошка. Былы кіраўнік студыі "Палітыка" Белтэлерадыёкампаніі, член праўлення Беларускай асацыяцыі журналістаў **Леанід МІНДЛІН** у інтэрв'ю "Народнай волі" выказаў сваё меркаванне, што *"афіцыйны Мінск фактычна пайшоў на чарговы канфлікт з Крамлём"*. *"Другая прычына канфлікту беларускіх улад з расійскім тэлебачаннем,* — лічыць Л.Міндлін, — *такая: напярэдадні парламенцкіх выбараў Лукашэнка намагаецца вывесці з гульні ўплывовы тэлеканал "Россия", які вяшчае на значнай тэрыторыі Беларусі. У Мінску асцерагаюцца, што тэлеканал "Россия" будзе прадастаўляць эфір апазіцыі. Новы канфлікт паміж Беларуссю і Расіяй відавочна дэманструе, што адносіны паміж двума былымі саюзнікамі перажываюць сапраўдны ледніковы перыяд"*.

А вось як пракаментаваў чарговы скандал у Мінску ў інтэрв'ю расійскаму выданню "Время новостей" былы кіраўнік карпункта ГРТ у Мінску **Павел ШАРАМЕТ,** які зараз працуе ў Маскве: *"Парламентские выборы в Беларуси должны пройти в октябре, и от того, каким будет парламент, зависят итоги референдума. Если решение будет принято не в пользу Лукашенко, в 2006 году ему придется выводить на улицы танки, чтобы вернуть себе власть. Поэтому и был нанесен неожиданный, необоснованный удар по каналу "Россия", вещающему в Беларуси в полном объеме и покрывающему 70—80% территории страны... Мне кажется, что единственно возможный вариант для ВГТРК сейчас — занять жесткую позицию, не идти на уступки. Можно поменять корреспондента, но корпункт должен работать в полном объеме. И только после этого можно начать переговоры. Когда я сидел в тюрьме в Беларуси, в Минск на переговоры ездило много российских политиков, и три месяца их обманывали. А потом Борис Ельцин стукнул кулаком по столу и сказал, что, пока не выпустят Шеремета, никаких переговоров с Беларусью не будет. А когда Лукашенко хотел прилететь в Ярославль, его самолету просто закрыли воздушный коридор. На просьбу Лукашенко дать разъяснения Ельцин ответил: "Пусть сначала Шеремета отпустит". Через день я был на свободе"*.

Каб узнаць, ці збіраецца тэлеканал "Россия", як прапануе Павел Шарамет, прыняць жорсткую пазіцыю ў адносінах да беларускіх улад, я звярнуўся ў маскоўскі офіс Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі. Прэс-сакратар УДТРК **Марыя БЕЗБАРОДАВА** паведаміла карэспандэнту "Народнай волі", што, на жаль, не можа даваць ніякіх афіцыйных каментарыяў наконт скандалу ў Мінску — *"пакуль не будзе атрымана афіцыйная папера ад беларускіх улад"*. Папера гэта, мусіць, да расійскай сталіцы пакуль яшчэ не дайшла.

Учора, у панядзелак, тэлефон карпункта канала "Россия" ў Мінску ўсё яшчэ працаваў. Але на пытанні журналістаў там не адказвалі, а за каментарыямі накіроўвалі ў Маскву: маўляў, там усё вырашаецца.

Вырашаецца ўсё, аднак, як дэманструе дзесяцігадовы вопыт зносін цяперашніх беларускіх улад з журналістамі, і не толькі з расійскімі, зусім не ў Маскве, а ў Мінску, на К. Маркса, 38. Пошук чорных кошак працягваецца?

**Алесь СІЛІЧ.**
**Калаж аўтара.**

Не цісне, Коля?

### Комментарий пресс-секретаря Министерства иностранных дел Республики Беларусь

12 марта 2004 года истек срок действия свидетельства об открытии представительства Федерального государственного унитарного предприятия "Всероссийская государственная телевизионная и радиовещательная компания" в Республике Беларусь.

Несмотря на завершение срока действия свидетельства, с учетом союзнических отношений, белорусская сторона не препятствовала деятельности корреспондентского пункта ВГТРК в Минске.

В связи с неоднократным предвзятым освещением происходящих в Беларуси событий и некорректным освещением несанкционированной акции, которая прошла 21 июля, а также игнорированием требования белорусской стороны принести официальные извинения за недостоверные сведения, содержащиеся в соответствующем сюжете корреспондента Дмитрия Петрова, рассмотрение заявления российской телерадиокомпании на продление срока действия свидетельства отложено.

Следуя доброй воле, мы не стали принимать жестких мер по отношению к корреспонденту Дмитрию Петрову, т.е. лишать его аккредитации. По истечении срока действия временной аккредитации он беспрепятственно покинул территорию нашей страны.

# Каб не згасла свечка надзеі

*Унікальны падарунак сваім слухачам і ўсім аматарам літаратуры зрабіла беларуская служба Радыё Свабода: іхнімі намаганнямі на кампакт-дыску выдадзены збор выступаў, каментарыяў, інтэрв'ю, літаратурных чытанняў Васіля Быкава.*

Так упершыню была зроблена спроба распачаць выданне на лічбавых носьбітах збору галасоў тых, каго завуць не інакш, як апосталы нацыі: пісьменнікаў, філосафаў, палітыкаў. Але гэтая серыя будзе мець працяг у будучым. Цяпер жа мы маем самы першы, а таму бясцэнны артэфакт сучаснай беларускай культуры і літаратуры — дыск, на якім зафіксаваны для нашчадкаў голас Васіля Быкава, пісьменніка і франтавіка.

Калі гаварыць пра выданне, якое названа складальнікамі *"Быкаў на Свабодзе: збор выступаў класіка беларускай літаратуры ў эфіры Радыё Свабода"*, то яго змест можа захапіць ад першай жа спробы праслухоўвання: настолькі высокі ўзровень мыслення пісьменніка, настолькі шырокі абшар філасофскіх абагульненняў і высноў, што міжвольна ўзнікае жаданне даслухаць назапашанае на дыску да фіналу. Бо ўсе гэтыя думкі, пытанні і адказы на іх пастаянна мітусяцца ў нашых галовах, але толькі геній Васіля Быкава дазволіў так дакладна і пераканаўча іх сфармуляваць.

Слухач дыска мае магчымасць праслухаць арыгінал (з аўтарскімі інтанацыямі і акустычнымі асаблівасцямі запісу, які зроблены ў мінскім Чырвоным касцёле) прамовы *"Курапаты — толькі кропля ў моры крыві"* (1988 г.), у якой пісьменнік упершыню заклікае *"памятаць тыя ахвяры, што былі панішчаны ў гады сталіншчыны"*, а таксама *"назваць імёны катаў гэтых людзей"*. Бо, як сцвярджае пісьменнік, кат і яго ахвяра звязаны інфернальна, і таму чалавецтва павінна памятаць імёны абодвух.

Вядома, што і зараз не спыняюцца спробы дзяржаўных устаноў сфармуляваць нацыянальную ідэю Беларускай дзяржавы. Здаецца, вынікам гэтых "пошукаў" стане такая ідэя, якая па сваёй дзіўнасці не саступіць "рынначнаму сацыялізму". Але, панове, спыніцеся: нацыянальная ідэя ўжо даўно сфармулявана. Трэба толькі расчыніць свае душы для разумення слоў Васіля Быкава ў прамовах *"Гэта — злачынства стагоддзя"*, *"Несвабода спараджае майстроў масавых забойстваў"*, *"Я — беларус, і мая родная мова беларуская"*, *"Трэба жыць дома. Ня ўсім выпадае такое шчасце"*, *"Трэба змагацца за родную мову"*, *"Мы занадта слабыя, каб дзейнічаць паасобку"*, *"Сьвечка надзеі"*...

Літаратурная частка творчасці Васіля Быкава прадстаўлена фрагментамі аўтарскага чытання знакамітых твораў пісьменніка "Мёртвым не баліць", "Альпійская балада", "Сотнікаў", "Знак бяды", "Доўгая дарога дадому".

Захаваныя на трэках дыска публіцыстычныя, філасофскія гутаркі і прамовы, літаратурныя творы сведчаць суайчыннікам пра магутную постаць таленту Васіля Быкава, з якім нам выпала шчасце быць сучаснікамі.

Цяпер, калі Васіля Уладзіміравіча не стала, мы з асаблівай удзячнасцю і надзеяй услухоўваемся ў голас пісьменніка, спрабуем асэнсаваць той духоўны скарб, які перадаў ён нашчадкам.

І дзякуй супрацоўнікам беларускай службы Радыё Свабода за тое, што яны падзяліліся гэтым скарбам з народам Беларусі, зрабілі гэты дыск набыткам нашай культурнай і гістарычнай спадчыны і ўсёй беларускай фанаграфіі.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**



# Рано или поздно Петр Первый проиграет Витовту

**Ирина ФЕДОРОВА**

Нетерпеливые борцы за общественные перемены порой в сердцах бросают массе соотечественников упрек в некой особой "совковости". Мол, из постсоветских наций белорусы больше всех зациклены на ценностях и пропагандистских стереотипах коммунистической эпохи.

Между тем этот постсоветский консерватизм постепенно размывается. О чем говорят, в частности, свежие данные Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ).

Итак, во время очередного национального опроса общественного мнения в июне 2004 г. НИСЭПИ, в частности, предложил респондентам составить своеобразный *"пантеон из деятелей белорусской, российской и советской истории"*. Из списка персоналий можно было отдать симпатии не более чем трем.

Лидерами ответов на вопрос *"Кто из нижеперечисленных политических деятелей в наибольшей степени вам симпатичен, соответствует вашему идеалу политика?"* стали Владимир Путин (39,3 процента), Петр Машеров (глава белорусской компартии во времена Брежнева, 32,7 процента) и живший три столетия назад российский царь Петр Первый (30,9).

Здравствующий же и правящий Беларусью уже целых десять лет Александр Лукашенко, как ему, наверное, ни обидно, с 21,3 процента оказался только четвертым. Из фигур отечественной истории в первую дюжину вошли Кастусь Калиновский (11 процентов), князь Витовт (6,6%), а также харизматичный канцлер ВКЛ Лев Сапега (6,5%).

С одной стороны, можно вновь упрекнуть соотечественников в приверженности советскому варианту истории. Ведь жестокий российский самодержец, которого в учебниках времен СССР подавали поборником прогресса (заставлял брить бороды, упростил алфавит, "в Европу прорубил окно" и т.д.), в глазах белорусов намного популярнее "своего" князя. Хотя на белорусской земле Петр Первый вел себя как завоеватель и оставил кровавый след.

С другой стороны, у поборников национального самосознания есть повод для оптимизма.

Как констатируют в своем отчете специалисты НИСЭПИ, *"в отношении к национальным героям за 8 лет произошли некоторые изменения. В опросе 1996 г. рейтинг князя Витовта был меньше ошибки репрезентативности, весьма незначительным был и показатель симпатий к Кастусю Калиновскому. С тех пор популярность легендарного князя выросла втрое, вровень с ним стал и знаменитый канцлер ВКЛ, а лидер народного восстания преодолел барьер популярности в 10%"*.

В этой связи НИСЭПИ напоминает, что в мартовском 2004 г. опросе были получены весьма неожиданные ответы на вопрос, какое государство было первой в истории белорусской державой. Тогда 15,1 процента назвали просуществовавшую недолго в 1918 году Белорусскую Народную Республику, 17 процентов — БССР, 18,2 процента — Республику Беларусь. И вот сенсация: относительное большинство — 34,6% — выбрали в этом качестве Великое княжество Литовское!

Комментируя тогда эти результаты, специалисты НИСЭПИ высказали мнение, что среди соотечественников налицо желание легитимизировать, обосновать для самих себя белорусскую государственность.

*"Нынешние результаты подтверждают эту интерпретацию"*, — говорится в свежем отчете НИСЭПИ. По мнению социологов, *"важной особенностью полученных результатов является падение за 8 лет популярности политиков советской эпохи, в частности, П.Машерова (на 13%), В.Ленина (на 10%), Л.Брежнева (на 7%)"*.

Авторы отчета констатируют, что *"в массовом сознании советский период уходит в необратимое прошлое. Уходит достаточно медленно и постепенно, но неумолимо... Белорусское общественное мнение перестает воспринимать нынешнюю постсоветскую эпоху как катастрофу, как ошибку истории. Вместе с тем белорусы попрежнему живут в значительной степени в российском, по крайней мере историческом, контексте: российские великие герои и злодеи — это и их, белорусов, герои и злодеи"*.

К этому можно добавить, что в последнее время белорусская официальная пропаганда все активнее лепит из российских деятелей антигероев. Москва предстает скопищем алчных олигархов и коварных политиков — врагов честной, равноправной интеграции, готовых в лютый мороз прекратить поставки газа Беларуси, чтобы поставить ее руководство на колени.

Думается, и таким парадоксальным образом идет отчуение массы белорусов от инерционной приверженности "россиецентризму", российским кумирам и трактовкам истории.

При этом очевидно, что Лукашенко, даже рядясь в тогу защитника суверенитета, не готов воспринять тот вариант белорусской истории, который проповедуется национально ориентированной оппозицией.

Он не может переступить через барьеры собственного образования (истфак провинциального советского института) и менталитета (признать правоту политических недругов — никогда!). Для Лукашенко Беларусь попрежнему начинается с БССР.

Другое дело, что эта трактовка все меньше устраивает соотечественников. И если десятилетие назад аббревиатуру ВКЛ могли расшифровать лишь представители тонкого слоя белорусскоговорящей элиты, то ныне, как видим, уже более трети наших сограждан видят прообраз независимости именно в Великом княжестве, а не в бутафорском суверенитете Белорусской Советской Социалистической Республики.

В общем, процесс пошел. Рано или поздно Петр Первый проиграет Витовту.

Другое дело, что Витовт, положа руку на сердце, был не менее жесток. Сегодня важно то, что медленно, но верно происходит его переход в качественно новую стадию. Белорусы укрепляются как нация в том числе и через утверждение собственных, а не заемных исторических кумиров.

*("Белорусские новости".)*

**ЧУЛІ?**

## МТЗ у першым паўгоддзі павялічыў выпуск трактароў амаль на 30 працэнтаў

Мінскі трактарны завод у першым паўгоддзі 2004 года вырабіў 17 тысяч 264 трактары, што склала 128,1 працэнта да ўзроўню аналагічнага перыяду мінулага года.

У студзені—чэрвені Мінскі трактарны завод адправіў на экспарт 16 тысяч 231 трактар. За першае паўгоддзе мінулага года за мяжу было пастаўлена 10 тысяч 319 трактароў. Асаблівасцю знешняга гандлю МТЗ стала двайное павелічэнне аб'ёму продажаў на рынках краін СНД. Туды экспартаваны 4 тысячы 333 трактары, што склала 212,1 працэнта да такога ж перыяду мінулага года. Аб'ём рэалізацыі сельскагаспадарчай тэхнікі ў Расіі дасягнуў 7 тысяч 420 адзінак (183,9 працэнта). У краіны далёкага замежжа прададзены 4 тысячы 478 трактароў (105,6 працэнта).

Мінскі трактарны завод уваходзіць у сямёрку самых буйных сусветных экспарцёраў трактароў, мае сувязі з партнёрамі больш як у 60 краінах свету. Сярод усіх трактарных заводаў краін СНД на долю МТЗ прыпадае 65—68 працэнтаў вытворчасці сельгастэхнікі. На працягу шэрагу гадоў завод захоўвае за сабой долю ў 8—10 працэнтаў ад сусветнага рынку колавых трактароў і знаходзіцца ў дзесятцы найбуйнейшых сусветных вытворцаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

Народная Воля

27 ЛІПЕНЯ 2004 г.

ПУЛЬС

## Цяпліцы з... двума патэнтамі

У Брэсцкім раёне на унітарным сельскагаспадарчым прадпрыемстве "Цяплічны камбінат "Бярэсце" ўрачыста былі адкрыты 2,2 гектара новых цяпліц, дзе гародніна вырошчваецца па новай тэхналогіі. Як паведаміў БелаПАН дырэктар прадпрыемства Мікалай Доўбік, з 2003 года камбінат поўнасцю перайшоў на вырошчванне таматаў і гуркоў па гэтай новай, экалагічна чыстай перадавой тэхналогіі, што распрацавана спецыялістамі сельгаспрадпрыемства сумесна з навукоўцамі "Інстытута агародніцтва" Нацыянальнай акадэміі навук і ўжо абаронена двума патэнтамі. Гэта дазволіла ашчадзіць шмат валюты і энергарэсурсаў. У грашовым эквіваленце за мінулы год такая эканомія склала 2,5 млрд. рублёў.

Дарэчы, новыя цяпліцы пабудаваны за кошт сродкаў самога прадпрыемства "Цяплічны камбінат "Бярэсце", куды ўкладзена 2 мільёны долараў ЗША. З увядзеннем новых плошчаў камбінат будзе вырошчваць гародніну ўжо на 14,6 гектара закрытага грунту.

Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Цюцюноў, які прысутнічаў на адкрыцці новых цяпліц, сказаў, што гэты вопыт павінен стаць здабыткам усіх агародніцкіх гаспадарак краіны.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Трэці фестываль сярэднявечнай культуры

Следам за фестывалем мастацтваў, што прайшоў у Навагрудку (Гродзенская вобласць) на пачатку чэрвеня і быў прысвечаны 960-годдзю горада, райвыканкам прыняў рашэнне аб правядзенні ў былой сталіцы Вялікага княства Літоўскага 3-га фестывалю сярэднявечнай культуры "Навагрудскі замак". Ён пройдзе 14—15 жніўня з мэтай захавання, вывучэння і прапаганды гістарычнай і культурнай спадчыны.

У цэнтры разнастайнай культурнай праграмы будзе паказальны рыцарскі турнір, начны бугурт, штурм замка. Калі раней, на папярэднія фестывалі, запрашаліся ўсе рыцарскія клубы, якія хацелі іх наведаць, то на сёлетні — толькі вядомыя і прафесійныя.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Шклоўская папера

Да 6 жніўня павінен быць падпісаны дагавор паміж канцэрнам "Беллеспаперпрам" і нямецкай фірмай "Конрад Якабсан" аб асартыменце прадукцыі і аб аплаце інвестарам расходаў па распрацоўцы бізнес-плана будаўніцтва завода газетнай паперы ў Шклове. Дасягнута дамоўленасць аб тым, што распрацоўку бізнес-плана будаўнічых работ будзе ажыццяўляць кампанія "Яаака Пойры" (Фінляндыя).

Плануецца, што папера будзе выrabляцца з тэрмамеханічнай драўнянай масы, 90 працэнтаў якой складае яловая драўніна, 10 працэнтаў — драўніна асіны. Магутнасць завода вызначана да 200 тыс. тон паперы ў год. Пры патрэбе Беларусі каля 50 тыс. тон, каля 150 тыс. плануецца экспартаваць на рынкі краін Заходняй Еўропы.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Лінія — з Польшчы, казеін — у Германію

На ААТ "Мазырскія малочныя прадукты" (Гомельская вобласць) устаноўлена новае абсталяванне — гомагенізатар расійскай вытворчасці, прызначаны для паляпшэння якасці масла.

Зараз на прадпрыемстве рэалізуецца праграма тэхнічнага перааснашчэння, у рамках якой плануецца замяніць састарэлае абсталяванне і наладзіць выпуск сучаснай высакаякаснай прадукцыі, якая будзе адпавядаць сусветным стандартам. Праграма разлічана на 2004—2005 гады. За гэты час плануецца асвоіць 3,3 млрд. рублёў. Нагадаем, што ў маі 2004 года на закупку абсталявання ААТ "Мазырскія малочныя прадукты" атрымала крэдыт у аб'ёме каля 1,05 млн. долараў.

У найбліжэйшы час плануецца купіць у Польшчы аўтаматызаваную лінію па вытворчасці тварагу паточным спосабам, а ў Італіі — камплект абсталявання па пастэрызацыі і ахаладжэнні малака. Экспарт прадукцыі павялічыўся з пачатку года ў 3,6 разу і склаў 620 тысяч долараў. У асноўным прадпрыемства экспартуе казеін у Германію.

**Лідзія РУДКОЎСКАЯ, Алена ПАСКАННАЯ.**

## 1,5 мільёна кветак

Напярэдадні 985-годдзя Брэста на клумбах горада расцвіло адразу больш за 1,5 млн. кветак.

Такое адначасовае цвіценне тлумачыцца не толькі імкненнем камунальнікаў упрыгожыць горад да свята, але і цёплым надвор'ем, што ўстанавілася ў абласным цэнтры.

Упершыню ўсе клумбы засаджваліся строга па загадзя распрацаваных эскізах, якія былі ўзгоднены з ландшафтным архітэктарам горада. Таксама сёлета ў Брэсце з'явіліся шмат'ярусныя клумбы, альпінарыі і шматлікія кашпо, устаноўленыя на вертыкальных металічных агароджах.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Ці стане пенсіённае страхаванне прафесійным?

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі распрацоўвае законапраект аб прафесійным пенсіённым страхаванні. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміла начальнік галоўнага ўпраўлення пенсіённага забеспячэння і сацыяльнага страхавання міністэрства Валянціна Каралёва.

Паводле яе слоў, прафесійныя пенсіі — гэта датэрміновыя пенсіі за работу ў асаблівых, цяжкіх умовах працы. Зараз гэтыя пенсіі прызначаюцца на 5—10 гадоў раней за вызначаны пенсіённы ўзрост. Яны выплачваюцца за кошт агульных адлічэнняў страхавых узносаў усіх наймальнікаў. Пры гэтым наймальнікі, якія выкарыстоўваюць працу работнікаў, занятых у неспрыяльных умовах, дадатковых страхавых узносаў не выплачваюць і не нясуць дадатковых страхавых расходаў на гэтыя пенсіі. Такім чынам, сказала спецыяліст, расходы па выплаце датэрміновых пенсій кладуцца на ўсю пенсіённую сістэму, у тым ліку на атрымальнікаў агульных пенсій.

**Вольга АСІПЕНКА.**

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ

# Поймет ли народ?

На Борисовском заводе автотракторного электрооборудования увольняют работников за принадлежность к новому профсоюзу.

Начальник метрологической службы этого завода издал распоряжение №5 от 19 июля 2004 года о сокращении слесаря КИПиА 6-го разряда Олега Барышкина — члена профсоюза радиоэлектронной промышленности, автомобилестроения, металлообработки и других отраслей (РЭПАМ). Это и есть причина, по которой Барышкин представлен к сокращению. Не учитывается даже то, что Барышкин — афганец, инвалид III группы, пользуется всеми теми льготами, которые установлены законодательством для инвалидов Отечественной войны. Кстати, распоряжение по цеху было в срочном порядке подготовлено на основании приказа директора завода №449 от 16 июля 2004 года.

А все началось с того, что была подана заявка на регистрацию первичной организации нового профсоюза. После того, как власть узнала, кто является членами этого профсоюза, пошла команда по предприятиям, и людей начали преследовать, запугивать и увольнять.

Другому работнику завода из энергоцеха Денису Цветкову начальник цеха заявил в ультимативной форме: "Неси заявление о выходе из профсоюза РЭПАМ, а то распрощаешься с рабочим местом". Под сокращение подводятся и другие члены профсоюза радиоэлектронной промышленности, автомобилестроения, металлообработки и других отраслей. Хотелось бы обратиться к директору ОАО "БАТЭ" г-ну Морозу. Что Вы делаете? Зачем мордуете людей? Ведь придет время, и вам станет стыдно. Да и отвечать, возможно, придется за нарушение законодательства и конституционных норм. Мало Вам Шерстнева, который не смог перенести травлю?

Профсоюз радиоэлектронной промышленности, автомобилестроения, металлообработки и других отраслей — это независимая организация трудящихся. В отличие от профсоюзов ФПБ, которые находятся, можно сказать, в руках государства, профсоюз РЭПАМ действительно является защитником рабочих. Поэтому профсоюз РЭПАМ не угоден власти, которая строит и загоняет все общественные организации под государственные штандарты и единую идеологию. Те, кто не хочет и сопротивляется, подлежат уничтожению. Пока не физическому. Но если человека лишают работы за то, что он вступает в профсоюз, которому он больше верит и считает, что только независимые организации трудящихся способны отстоять интересы рабочего человека, разве это не беспредел?

Выбирать профсоюз рабочему позволяют законодательство, Конституция, но в данном случае не позволяет руководство ОАО "БАТЭ". И директор ОАО "БАТЭ" да и другие начальники, стараясь сохранить себя, выполняют любой приказ, полученный свыше от тех, кто внедряет новый порядок.

Преследование членов и сторонников независимых профсоюзов развернуто на всех предприятиях. Директора под давлением Администрации устанавливают тотальный идеологический контроль в коллективах. Независимые профсоюзы фактически объявлены вне закона на Минском тракторном заводе, "Гомсельмаше", "БелАЗе", "Интеграле" и многих других предприятиях. Нет, не оппозиция, а нынешняя власть держит рабочих за быдло, за "рабочее мясо", лишая его права на самозащиту и свободу выбора.

В Новогрудке властями проводится превентивная работа по "тихому отстрелу" участников предстоящей кампании по выборам в Национальное собрание. Еще человек не заявил публично, что он будет баллотироваться на выборах, а уже власть всеми способами и методами рассеивает ряды команд будущих, по их мнению, кандидатов. Врач Лариса Бухаленко, член опальной БПТ, в течение длительного времени "прорабатывается" начальством за свою гражданскую позицию. Ей инкриминируют оппозиционную политическую деятельность. Все ее друзья предупреждены о том, что если будут помогать Л.Бухаленко, то могут распрощаться со своими рабочими местами. Вот тут и возникает вопрос к депутатам Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь и, в частности, к г-ну Орде, а также к представительству ОБСЕ: где же соглашение о проведении в Беларуси честных и справедливых выборов, которое недавно подписали делегация парламентариев Республики Беларусь и руководитель Рабочей группы ОБСЕ по Беларуси г-жа Цапф?

О какой честности и справедливости выборов в Беларуси можно говорить, когда вопиющие факты беззакония, попрания элементарных прав и свободы граждан имеют место во всех городах, районах и на предприятиях страны?

Социал-демократ и ученый Левкович в цикле статей по политологическому ликбезу в "Народной воле" очень доходчиво разъясняет, что происходит в Беларуси и как это все называется. Насаждение единой государственной идеологии, огосударствление всех общественных институтов, в первую очередь профсоюзов и организаций работодателей, подчинение их аппарату управления как в центре, так и в регионах, ликвидация правозащитных организаций, ограничение и запрещение публичных акций и выступлений, насаждение авторитаризма и тоталитаризма под демагогические рассуждения о демократии, социальном благополучии, о правах человека — такова белорусская действительность.

Практически в Беларуси идет фашизация общества и страны. И развитие этой крайне опасной тенденции народ допускает молча, спокойно наблюдая, как уничтожаются элементарные человеческие права, насаждается страх, запрещаются общественные и политические организации. Население, к сожалению, не чувствует, что будущее у страны отнято и брошено к ногам власти, власти одного человека.

10 лет назад народ Беларуси сделал свой выбор. Выбор алогичный, курьезный, но это был выбор народа. Потому что в то время еще не действовал порядок проведения выборов, который установил позже Лукашенко. Некоторые говорят, что мы должны уважать президента за то, что его выбрал народ. А что, народ не ошибается? Ведь иногда одурачить толпу значительно легче, чем одного-двух человек.

Выбирая конкретную власть (президента, депутатов и т.д.), нельзя допускать, чтобы эти люди закреплялись на своем посту навечно. Как и оборот капитала, так и оборот людей у власти дает наибольший эффект.

Безусловно, выборы должны быть свободными и справедливыми. Нарушение выборного законодательства, особенно с целью изменения результатов выборов, должны караться самым серьезным образом. Это государственное преступление, оно тяжелее, чем преступление против личности. Искажение результатов порождает недоверие людей к выборному механизму и отталкивает их от этих мероприятий. Практически фальсификация результатов выглядит как лишение людей их конституционного права — права участвовать в выборах, избирать и быть избранными. Подобные действия разрушают устои государства.

Нынешняя власть во главе с Лукашенко уже неоднократно шла на нарушения Избирательного кодекса. Практически многих из нынешнего состава Палаты представителей власть протолкнула в парламент. Если бы выборы были демократическими, то они никогда не попали бы в высший законодательный орган.

Власть, по заявлению Лукашенко, создает сильное государство с единой идеологией, с единым мировоззрением, с единой подчиненностью власти всех общественных организаций, введением полного государственного контроля над деятельностью политических партий. Это происходит сейчас. Подтверждением тому — пример с Белорусской партией труда, которую собираются ликвидировать по указанию свыше.

Если просмотреть всю последовательность событий, происходящих на всех уровнях и во всех секторах белорусского общества, то отчетливо видно, как тиски власти сжимают все общество и заталкивают его в структуру государственной системы, управляемой одним человеком и приближенными к нему лицами, отобранными по принципу личного доверия и преданности. Так скажите, что это за система общественного обустройства? Думаю, что большинство политологов отнесут такую систему к государству недемократического типа. Социологические исследования так же подтверждают, что поддержку нынешней власти и ее "вождю" оказывают в основном люмпены, деклассированная часть общества, малограмотное и не отличающееся высокими культурными, духовными и материальными запросами граждане. А любовь к бряцанию оружием, военными нарядами, показухе? Разве мы не проходили все это?

Я знаю, что большинство белорусского народа понимает, куда мы идем, но еще не осознает, насколько это серьезно может отразиться на судьбе белорусского государства, будущем наших детей.

Характерно и отношение к происходящему в стране большинства граждан, относящихся к культурной и спортивной элите, которая при таких режимах замыкается в рамках своих корпоративных интересов, не проявляя гражданственности, потакая диктатору. Это видно и по "Славянскому базару", и по отношению к попыткам изгнать из НОКа трехкратного олимпийского чемпиона В.Парфеновича, и по многим другим проявлениям.

Остается открытым вопрос — когда народ поймет, что нынешняя власть не способна привести их к счастливой жизни? Помочь людям ответить на этот и многие другие вопросы призваны независимые профсоюзы. Именно на это сориентирован и профсоюз радиоэлектронной промышленности, автомобилестроения, металлообработки и других отраслей.

**Александр БУХВОСТОВ, председатель профсоюза работников радиоэлектронной промышленности, автомобилестроения, металлообработки и других отраслей.**

ЛІСТ ГАЛОЎНАМУ РЭДАКТАРУ

## Няхай Вас Бог ахоўвае на жыццёвым шляху...

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

Гэта пісьмо піша Вам пенсіянер з вёскі Вясея Слуцкага раёна Васіль Іванавіч Шусцер. Ужо разоў пяць збіраўся напісаць, ды ўсё не выходзіла. Хачу шчыра прызнацца: я з'яўляюся вашым падпісчыкам яшчэ з тых часоў, калі Вы былі галоўным рэдактарам "Народной газеты". А калі на свет з'явілася "Народная воля", то як толькі пачалася на яе падпіска, я адразу стаў пастаянным чытачом і ніколі з ёю не разлучаўся.

Каб у наш час была такая справядлівая газета, трэба быць вельмі мужнымі людзьмі. Як галоўнаму рэдактару, так і ўсяму творчаму калектыву. Мне здаецца, хутка прыйдзе такі час, калі тыраж "Народнай волі" будзе не 27—28 тысяч экземпляраў, а тысяч семсот. Толькі Вы беражыце сябе, бо не кожнаму чалавеку ўдаецца вытрымаць такі псіхалагічны ціск, які вытрымліваеце Вы.

Зусім хутка выйдзе 2000-ы нумар вашай газеты, і мне вельмі хочацца, каб Вы асабіста і члены вашага творчага калектыву сустрэлі яго здаровымі і з вялікімі надзеямі на будучыню. Лепшую.

У Вашым калектыве не так даўно з'явілася Леанарда Юргілевіч. Я асабіста хачу сказаць ёй шчыры дзякуй. Дай ёй Бог здароўя, каб яна сваімі расказамі і надалей дапамагала выхоўваць нашу моладзь. Мне вельмі хочацца, каб да людзей вярнулася сумленне. Я не ведаю як хто, а я, калі пачынаю ўспамінаць сваё жыццё, то, Госпадзі, колькі ў гэтым жыцці было зроблена памылак. Мне больш за 70, але вельмі хочацца дажыць да таго дня, каб прачытаць у Вашай газеце праўду аб зніклых. І веру, што іх імёнамі будуць названы вуліцы ў гарадах.

Яшчэ раз хочацца сказаць Вам шчыры дзякуй за вашу цяжкую працу. Дай Бог, каб Вы былі ўсе здаровыя і каб Бог ахоўваў Вас на жыццёвым шляху.

**З павагай да ўсяго калектыву —**

**Васіль Іванавіч ШУСЦЕР, вёска Вясея Слуцкага раёна.**

## АД РЭДАКЦЫІ

*Гэты ліст мы атрымалі яшчэ ў маі. Але вялася падпісная кампанія, і, каб апаненты не папракнулі нас, што рэдакцыя выкарыстоўвае яго ў рэкламных мэтах, устрымаліся ад публікацыі. Цяпер друкуем з адным жаданнем — сказаць нашаму шаноўнаму прыхільніку Васілю Іванавічу Шусцеру, што мы выдаём газету не дзеля славы, а дзеля інтарэсаў усіх сумленных людзей, дзеля таго, каб наша родная Беларусь хутчэй вызвалілася з палону аўтакратыі, каб народ нашай краіны хутчэй пазнаў шчаслівае жыццё.*

*Дзякуй Вам, Васіль Іванавіч, за шчырыя словы! Мы, журналісты і ўсе супрацоўнікі рэдакцыі, пастараемся апраўдаць давер як Ваш, так і ўсіх нашых чытачоў.*

## Не звянуць кветкам народнай любові

«На Беларусі Бог жыве» — так сцвярджаў у сваім славутым вершы славуты сын зямлі беларускай Уладзімір Караткевіч. Сцвярджаў з усім напалам гарачай любові да бацькоўскага краю:

*Гэта край раскрытых душ і дзвярэй,*
*Гэты край —*
*Твой дом і сабор...*

І ў гэтым краі, як і далёка за ім, людзі ўжо не аднаго пакалення зачытваліся і зачытваюцца творамі чалавека, які адкрывае ўсяму свету душу сваёй зямлі пад белымі крыламі, які ў наш час высока ўзняў Купалаву паходню Беларускай нацыянальнай ідэі. Ён выказаў яе з такой мастацкай сілай, што ўсё сказанае ім пра Радзіму, яе мінулае, сучаснае і будучае сталася магутным сродкам выхавання сапраўдных патрыётаў, верных сыноў Бацькаўшчыны.

20 год — цэлых 20 год — як перастала біцца вялікае, поўнае гордасці і болю за Бацькаўшчыну сэрца. Але Уладзімір Караткевіч заўсёды быў, ёсць, будзе, як сам прарочыў свой лёс, лёс вялікі і прыгожы. Аб гэтым гаварылі каля магілы Уладзіміра Сямёнавіча на Усходніх могілках у Мінску вядомы мастак Мікола Купава, знаныя навукоўцы Адам Мальдзіс, Уладзімір Конан, Мікола Чарняўскі і ўдзячныя чытачы кніг незабыўнага класіка, што прыйшлі ўшанаваць яго памяць у мінулую нядзелю.

...Толькі што прашумеў магутны ліпеньскі лівень, і кветкі, якія леглі на камень да бронзавых каласоў помніка, заззялі ў іскрыстай свежасці дажджавых кропель. Ніколі не звянуць кветкам народнай любові да таго, хто адкрывае народу вочы на Праўду і Святло, на гонар быць сынам Маці-Беларусі. Сапраўды, на Беларусі Бог жыве, і Уладзімір Караткевіч — адзін з нашых зямных багоў, неадлучных ад сэрца.

Але... Але для ўлад краіны няма пракрокаў у сваёй Айчыне. Такіх гігантаў нацыянальнага духу, вядома ж, трэба шанаваць на ўсенародным, дзяржаўным узроўні, а не толькі купкай самых адданых прыхільнікаў.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

МНЕНИЕ

# Не нужно прикрываться демагогией

*В Беларуси на душу населения приходится два гектара земли, а белорусская нация — одна из наиболее образованных наций Европы. В Беларуси созданы мощнейшие промышленные комплексы начиная от металлургического, нефтехимических, агропромышленного, текстильных, строительных, металлообработки, электронного машиностроения и кончая ремонтными предприятиями различного назначения. Все они обеспечены высококлассными специалистами, научными кадрами, научно-исследовательскими институтами, системой подготовки кадров. Никто не осмелится сказать, что белорусы не умеют плодотворно трудиться.*

Пора, давно пора признать истину: Беларусь является одной из самых богатых стран Европы.

Поэтому наше нищенское существование — результат некомпетентного руководства страны.

Глава государства правильно утверждает, что демократия — это власть народа. Ранее утверждалось, что демократия — это строгое выполнение законов. К сожалению, ничего не было сказано А.Лукашенко на недавней пресс-конференции о механизме народовластия. А в мире существуют всего два принципа построения политической системы власти.

Первый: "власть народная, а не партийная". Это принцип построения авторитарной, тоталитарной власти со всеми вытекающими из этого принципа последствиями. Прикрываясь демагогическим постулатом, небольшая группа чиновников при этом фактически узурпирует власть.

Второй: многопартийная политическая система власти. Это принцип построения демократического государства. Принцип, который обязательно ведет к процветанию страны.

В Беларуси построена власть по первому принципу. И пока эта система власти будет существовать, Беларусь будет на задворках Европы. Минск действительно благоустраивается, но заглянем в душу белоруса — в ней все большее место занимает страх перед вседозволом чиновенства и своей беспомощностью перед всесилием власти. Это трагедия для народа. Да и можно ли судить обо всей стране по одному Минску? Кто не знает о нищенском положении тысяч населенных пунктов!

Глава государства дал точную оценку оппозиции.

Но политика, как точная наука об управлении обществом, четко и однозначно определяет (это подтверждается и всемирной практикой), что **уровень эффективности оппозиции прямо пропорционален уровню демократичности властвующей политической элиты.** Именно от власти зависит сила оппозиции. И чем сильнее оппозиция, тем плодотворнее власть работает для народа и наоборот.

Поэтому, если глава государства действительно является патриотом своей страны, патриотом своего народа, например, как господин Шарон, он должен холить и лелеять оппозицию. Мощная оппозиция — это недремлющее око главы государства, если он действительно всю свою энергию направляет на то, чтобы белорусский народ жил не на задворках Европы, а в самой процветающей, богатой, духовно комфортной стране, с которой берут пример другие страны и народы. Первым шагом в этом направлении является создание многопартийного парламента, мощного законодательного органа, на который работает интеллект всех партий. Многопартийная политическая система власти — это единственный известный человечеству механизм построения процветающего государства. Все иное — целенаправленный обман народа, действия, разрушающие цивилизацию в целом.

О молодежи.

Студенческие отряды — это самый неэффективный способ использования энергии молодежи на благо страны. А именно в Беларуси имеется возможность передать в руки молодежи целую ветвь, целое направление хозяйствования — экологический и исторический туризм. В эту сферу деятельности будет практически вовлечена вся молодежь страны, так как эта деятельность находится в русле интересов молодежи. Быстрыми темпами будет расти социальная, экономическая и политическая активность и грамотность молодежи. Она будет способствовать культурному, духовному обогащению, воспитанию патриотизма, любви к своей земле, традициям и историческому прошлому своей родины, здоровому образу жизни. Поднимутся из руин замки, появятся новые и вспомнятся старые туристские маршруты. Молодежь сможет хорошо зарабатывать или подрабатывать в процессе своей учебы. Государство же, если его правящая элита сможет выполнять компетентно свои функции, получит через 10—15 лет высокорентабельную доходную отрасль, которая будет способствовать развитию ремесел, живописи, роста сельхозпродукции, разного рода сервисных услуг и многого другого.

Я, как и все члены нашей партии, нахожусь в оппозиции к существующей власти. Я не бью себя кулаком в грудь, но я люблю свой народ, свою страну, я вижу возможности, великие возможности страны мирными средствами влиять на решение конфликтных ситуаций в мире, быть примером для подражания другим странам.

Я не отвечаю на оскорбления в свой адрес и адрес партии. Я предлагаю существующей власти: "Берите плодотворную идею для деятельности молодежи, реализуйте ее на благо всей страны, и я первый буду Вам аплодировать".

К великому сожалению, существующая власть никогда не реализует эту важную для страны идею, ибо реализация идеи активизирует в стране построение гражданского общества. А это для существующей власти неприемлемо.

**Валерий АРТИШЕВСКИЙ, заместитель председателя БСДГ, кандидат технических наук.**

ЗДАРЭННІ

## Адзін чалавек патануў падчас моцнага ліўню ў Мінску

У выніку моцнага ліўневага дажджу, які прайшоў у Мінску ў нядзелю з 16 да 17 гадзін, адзін чалавек загінуў, былі падтопленыя падвальныя паверхі будынкаў і ўчасткі аўтамабільных дарог.

Як паведамляе прэс-служба МНС, падчас ліўню на вуліцах горада назіраўся інтэнсіўны рост узроўню вады. Быў падтоплены транспартны тунэль на вуліцы Няміга, падвалы гандлёвага дома "На Нямізе" і сабора Святых Пятра і Паўла, гандлёвыя і складавыя памяшканні ААТ "ГУМ", хлебазавода № 1.

Пад вадой апынуліся ўчасткі аўтадарог па праспекце Машэрава ў раёне кінатэатра "Масква", па праспекце Дзяржынскага ад плошчы Нагіна да 2-га завулка Р.Люксембург. Пры спробе прадухілення падтаплення падвала жылога дома па вуліцы Кірава патануў 26-гадовы прыватны прадпрымальнік.

З пяці адзінак грамадскага транспарту, што знаходзіліся ў зоне падтаплення, ратавальнікі эвакуіравалі 62 чалавекі, у тым ліку 5 дзяцей. Акрамя таго, было падтоплена 8 легкавых аўтамабіляў, людзі з якіх эвакуіраваліся самастойна.

З падвала жылога дома па вул. Кірава ратавальнікі эвакуіравалі чатырох чалавек. Выхады былі блакіраваныя вадой. У вёсцы Пятроўшчына байцы МНС выратавалі жанчыну — хворую гаспадыню вынеслі з падтопленага прыватнага жылога дома.

У ліквідацыі наступстваў стыхійнага бедства бралі ўдзел 32 адзінкі тэхнікі і больш за 130 работнікаў МНС, 27 адзінак тэхнікі і 159 чалавек іншых міністэрстваў і ведамстваў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**
**Фота photo.bymedia.net**

